Ігар
Пракаповіч

# ЯК КОЦІК РЫБКУ ЛАВІЎ



Мастак
Наталля
Зямчонак

УДК 84 821
ББК 84
П78

**Пракаповіч, І.**
П78 Як коцік рыбку лавіў / І. Пракаповіч. — Мінск : Каўчэг, 14 с.
ISBN 978-985-7162-79-6

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Для малодшага школьнага ўзросту

Пракаповіч Ігар Міхайлавіч
**Як коцік рыбку лавіў**

Мастак
Наталля Замчонак

Падпісана ў друк 09.03.2017 г.
Фармат 60×84/16.
Ум. друк. арк. 0,75.
Тыраж 99. Замова 225

ТАА «Каўчэг»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/381 ад 1 ліпеня 2014.
Пр. Незалежнасці 68-19, 220072 г. Мінск.
Тэл./факс: (017) 284-04-33




Жыў-быў на белым свеце коцік. Меў ён невялічкую хатку на краі вёскі, невялічкую печачку ў хатцы і вялікае люстэрка, у якое любіў глядзецца кожную раніцу, абед і вечар.



Калі коцік падыходзіў да люстэрка і зазіраў у яго, то там адразу ж з’яўляліся доўгія вусы, кароткія вушкі, прыгожыя вочкі і маленькі носік. І ўсё гэта было аточана шэрай поўсцю з белымі плямамі каля рота і каля шыйкі коціка.



Летам жыць было добра, бо ярка свяціла сонейка, зелянелі і квітнелі сады і травы, спявалі птушкі ды шамацела лісце. Але вось прыйшла зіма, зацягнула лёдам суседняе возера, закрыла зямлю мяккай, але халоднай белай коўдрай. Прыціснулі маразы, ды такія траскучыя, што аж дрэвы стагналі ад іхняй лютасці.



Коціку ў хатцы было цёпла, бо печачка надзейна сагравала ягонае жытло. Харчаваўся коцік сваімі летнімі запасамі і ні ў чым не меў патрэбы. Але аднойчы яму моцна захацелася паесці рыбкі. І не сушанай, і не салёнай, якой у яго было дастаткова, а свежанькай, смачненькай. Доўга глядзеў коцік праз акно на возера, усё не рашаўся выйсці з хаты.



Але, урэшце, сабраўся, апрануў кажушок, нацягнуў шапку на вушы, уссунуў на ногі цёплыя валёначкі. Добра апрануўся, вось толькі для вачэй, носу і для хваста вопраткі ў яго не было.

Узяў коцік саначкі, паклаў на яе пешню, зімовую вудачку і пацягнуўся да возера. Далёка не пайшоў, бо ведаў, што рыба зімой галодная і шукае пракорму каля травы.



Таму і выбраў ён месца ў трысці каля крутога берага, у зацішку ад ветру.

Прадзёўб пешняй пельку, павыцягваў асцярожна ільдзінкі і закінуў вуду. Жылка з мармышкай яшчэ толькі апускалася ў ваду, а ўжо над галавой у коціка зашалясцелі крылцы і на трасцінкі абапал пелькі селі тры снегіры.



- Хі-хі-хі, - праціўкала адна птушачка, - глядзіце, гэты коцік рыбкі захацеў...

- Хі-хі-хі, - адазвалася другая, - нічога гэты кот тут не зловіць. Ён толькі свой нос і свой хвост адмарозіць.

- Ага-ага, - падтрымала размову трэцяя птушачка, - у яго ўжо нос такі ж чырвоны, як і наша пер’е.



Коцік раззлаваўся на гэтых няпрошаных гасцей і ўжо хацеў падняцца з саначак, каб папужаць іх, але раптам адчуў, як нехта моцна пацягнуў за леску. Ён пацягнуў за вуду і праз некалькі імгненняў на лёдзе ўжо падскокваў вялікі акунь. Прайшло яшчэ трохі часу - і побач з акунём апынулася яшчэ некалькі рыбін.



- Харошая рыбалачка... Пэўна, вядро рыбкі налаўлю, - падумаў коцік, які ўжо забыўся і на свой чырвоны нос, і на снегіроў, якія з зайздрасцю глядзелі на тое, як коця адну за адной выцягвае рыбак з пелькі.

Аднак раптам за кручок ухапілася нешта вялікае, бо цягнуць стала цяжка. Коцік расхваляваўся. Ён ужо ўяўляў сабе, як пад лёдам б'ецца на лесцы ці вялікі шчупак, ці мянтуз...



І тут з вады вытыркнулася вялікая клюшня, падобная да абцугоў.

- Ой, рак! – спуджана ўсклікнуў коцік. Ён з дзяцінства не любіў і нават баяўся гэтых клюшневых страшыдлаў.

- Ой! – ускрыкнуў рак у вадзе, убачыўшы над сабой невядомае вусатае стварэнне з вялікімі вачыма і маленькім чырвоным носам. Але рака ніхто не пачуў, нават снегіры. Ён моцна сціснуў сваю клюшню на лесцы, тая пстрыкнула - і рак знік пад вадою.



Коцік са шкадаваннем паглядзеў на абарваную вуду, сабраў на саначкі рыбу, паклаў пешню і рушыў дахаты. Час ад часу ён паварочваў галаву, каб яшчэ раз паглядзець на свой багаты ўлоў, і марыў пра тое, як заўтра з новай вудай пойдзе рыбачыць на возера.

А снегіры паважліва глядзелі яму ўслед.



А ноччу Коціку прыснілася вялікая залатая рыба, якая плыла па небе паміж будынкаў горада, каб патрапіць ў вялікае вядзерца. Ой, салодкі гэта быў сон...

